# НАВІНКІ

23 жніўня - 6 верасьня 1999 №8(16) Кошт свабодны





# Круглы стОл: новая гульня з апазыцыяй

У Беларусі што ні астранамічная зьява (камэта, салют або зацьменьне), то чарговы шквал прароцтваў аб тым, што глябальны капец сьвету не за гарамі. А ў гэтым годзе прыхільнікам блізкага суднага дню сам Бог вялеў бадрыцца.

У выдадзеных у 1555 годзе страшылках Centures францускі футуроляг Мішэль Настрадамус накаркаў, што пад час сонечнага зацьменьня 1999 адбудуцца амаль усяленскія зьмены. У прыватнасьці, нейкі стары дыктатар павінен загнуцца, а на вакантны трон узайсьці малады прынц, нехта Англамуа. Згаданая настрадамусаўская залепа была на «ўра» ўспрынятая ўсякімі эсхаталягічнымі шызікамі і нават, што ні дзіўна, часткай дэмакратычнага электарату.

Апошнім тэма апакаліпсісу аптымальна пасавала да конгеніяльных разылікаў іхных лідэраў пра тое, што недзе ў ліпені-жніўні Лукашэнка перастане быць легітымным Прэзыдэнтам, наступіць судны дзень, і мы кагалам уступім у боскае царства быцьця «без лукі». Касандры апазыцыі так заплялі сваім вернікам ізьвіліны пра настаючы палітычны апакаліпсіс, што ў краіне пачаўся сапраўдны бум сэктаў эсхаталягічнага характару кшталту Аум Сэнрыкё або Белага Брацтва. Сярод найбольш адмарожаных – сэкта Імпічмэнту Сёмага Дню (іхныя гуру давалі зуб,

На стар. 2

## Падвысіліся кошты на хлеб...




## Харчовы крызыс?

На двары апазыцыі сьвята. Дэмакратычную прэсу аж панесла: «Пасяўная-та правалілася. Ураджай не сабраны. Зімой усім каюк будзе. А вінаваты ва ўсіх нашых бедах – Ён, узурпатар! У носе ў яго ня кругла нармальны ўраджай сабраць». На аргумэнтаваныя адмазкі дзяржчыноўнікаў пра херовае надвор'е дэмакратычныя Каіны, разумеючы, лыбяцца: «Ну, ну, чулі мы пра гэта ўжо. Старыя байкі. Вы яшчэ нам пра каларадзкага жука раскажыце». Ну хоць кол ты ім на галаве чашы. На самой справе ўлады ня вывернулі факты ні на ёту.

**На здымку ўнізе:** пастрадаўшая з-за небывалай засухі Сталіншчына. Старшыня калгасу «Новае Жыцьцё» дэманструе ўгодзьдзі, дзе яшчэ нядаўна каласілася ядронае жыта.



## *Патрыёты ідуць у раскол*

Блакітным полымем гарыць зямля пад нагамі акупацыйнага прамаскальскага рэжыму. З кожным днём набліжэньня перагаворнага працэсу шэрагі радоў сымпатыкаў Прэзыдэнта растаюць, як сакавіцкі сьнег. Апошнім у шэрагу юдаў-перавёртышаў – стоўп маладзёвай палітыкі рэжыму – лідэр БПСМ Усевалад Янчэўскі. 23 жніўня ў інтэрвію «Панараме» былы дзяржаўны саноўнік, а зараз заўзяты вальтэрыянец Сева зрабіў сэнсацыйную заяву. Ён патрабаваў уключыць БПСМ у перагаворны працэс, цалкам слушна заўважыўшы, што дэмакратам-банкрутам за круглым сталом рабіць няма чаго. Цяпер за круглым сталом апанэнтам Прэзыдэнта будзе не салабон Лябедзька з карлікавай Грамадзянскай Партыі, а Янчэўскі, за сьпінай у якога 150 тысячаў адмарожаных хунвэйбінаў. Вось табе, бацька, і Юр'еў дзень.




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 5100 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 23.08. 99 г. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная Зорка" ППП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ № 2045

## СЬМЕРЦЬ АПАЗЫЦЫЯНЭРА

Павучыцельная гісторыя пра дэмакрата, які самааддана марыў пра інтэграцыю Беларусі ў Эўрапейскую Супольнасьць














# Яшчэ не Вячорка

## Новыя бітвы за лідэрства ў БНФ дасягнуць свайго галоўнага апагею ў верасьні

Чорныя хмары згусьціліся над галавой самага віднага палітычнага прахадзімца Беларусі Зянона Пазьняка. «Атамана трэба мяняць!» – менавіта гэтак катэгарычна вырашыла большасьць сябраў Управы БНФ. І сапраўды, чаго можна чакаць ад лідэра, які вось ужо тры гады жуе рабчыкаў, запіваючы іх халодным марціні, акрамя бязглуздых факсаў і правакацыйных заяваў?

Каб ня класьці справу ў даўгую шуфляду, было вырашана тэрмінова правесьці пазачарговы Зьезд БНФ, на якім і перавыбраць старшыню. Завадатарам справы й галоўным прэтэндэнтам на крэсла Пазьняка выступіў малады й амбіцыйны Вінцук Вячорка, сябра БНФ з 1988г. Варта адзначыць, Вячорка папрацаваў на славу. Былі сабраныя 4 таўсьцезныя тэчкі кампраматаў, 11 трохгадзінавых відэакасэт пра побыт і прыгоды Пазьняка за мяжой і г.д. Складзеная таксама «Праграма Вінцука Вячоркі па вываду БНФ «Адраджэньне» з крызысу» аб'ёмам на дзьве з паловай машынапісныя старонкі.

І вось у самы разгар аксамітавага сэзону для адпускоў, калі нармальныя людзі адпачываюць напярэдадні вырашальнай бітвы за ўраджай, ува ўсе куткі Беларусі паляцелі тэрміновыя шыфроўкі: «Усім усім усім зені капец 31 ліпеня 1 жніўня менск сукно як штык». З нарачанскіх Дамоў адпачынку, прыгарадных лецішчаў і лясных спартыўных базаў пацягнуліся вераніцы дэлегатаў Зьезду.

Разьвёрнуты даклад Вячоркі наконт перагібаў і валюнтарызму ў кіраваньні Фронтам, дапушчаных Пазьняком, паверг у шок дэлегатаў з правінцыі. Факты сапраўды ўражвалі. Для большасьці фронтаўцаў было сапраўдным адкраненьнем, што іхная надзёжа і апора Зянон, аказваецца, вось ужо трэці год не жыве ў Беларусі! Аднак плянам Вячоркі не ўдалося так проста ажыцьцявіцца. Проста толькі казка кажацца. Прыхільнікі патрыярха Адраджэньня яшчэ да Зьезду раскусілі пляны змоўнікаў-вячоркаўцаў і загадзя падрыхтаваліся да бою. Пазьнякоўцы абвінавацілі Вінцука, што той нібыта наўмысна падрабляў факсы Пазьняка з мэтай дыскрэдытацыі апошняга. Дэлегатам былі прадэманстраваныя рулоны факсавай паперы, наўсьцяж пакрэсьленай знаёмай кожнаму фронтаўцу чырвонай асадкай Вячоркі.





Бюлетэнь для галасаваньня за кандыдатаў на пасаду Старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

Зянон Пазьняк | Вінцук Вячорка

Пакіньце на бюлетэні таго кандыдата, якому аддаеце свой голас. Бюлетэнь, на якім пакінутыя два кандыдаты ці абодва кандыдаты выкрэсьленыя, лічыцца не сапраўдным!

*Прыхільнікі В.Вячоркі сур'ёзна рыхтуюцца да верасьнёўскага Зьезду БНФ. Тыраж бюлетэняў для галасаваньня ўжо гатовы*

Распалілася жорсткая дыскусія, у выніку якой Сіўчыку расквасілі нос, а Баршчэўскі амаль што не адарваў вуха Севярынцу. Каб пазьбегнуць банальнай дваровай мачылаўкі, было вырашана перайсьці да галасаваньня па кандыдатурах.

Вынікі галасаваньня для вячоркаўцаў былі несуцяшальнымі: 156 галасоў аддадзеныя за кандыдатуру З.Пазьняка і толькі 152 – за В.Вячорку. Здавалася б, змоўнікі атрымалі дастойны адпор з боку старой фронтаўскай гвардыі. Аднак нейкі разумнік прыгадаў, што ўсяго дэлегатаў на Зьезьдзе было 269, а ніяк не 308. У залі падняўся гвалт: «Махляры! Ганчары! Фальсыфікатары! Даеш свабодныя й праўдзівыя выбары!». Разьюшаны Вячорка патрабаваў сатысфакцыі.

Надзвычайная камісія па расьсьледаваньні фальсыфікацыі галасаваньня, насьпех скалочаная прайграўшымі прыхільнікамі Вячоркі, выкрыла шматлікія факты парушэньняў працэдуры галасаваньня: запалохваньне й шантаж дэлегатаў, хабарніцтва сябраў рэвізійнай камісіі і г.д. Але ў рэшце рэшт перамог здаровы сэнс, і дэлегаты, ушчэнт выматаныя двухдзённым выбарчым марафонам, прыйшлі да гэтак неабходнага ўсякаму апазыцыянэру кансэнсусу. На верасень прызначаныя перавыбары старшыні Фронту. «Пазьняку ўжо позна нешта рабіць. Перамога будзе за мной!» – заявіў В.Вячорка, на што З.Пазьняк адказаў самым кароткім за апошні час факсам: «Яшчэ ня вечар!» ●

**Яўген Скочка**

# Круглы стОл...

## Настрадамус зноў абламаўся

*Са стар. 1*

што Прэзыдэнт аддасьць канцы на сёмы дзень пасьля канца легіслатуры), Сьведкі Канстытуцыі 1994-га году, Апазыцыянэры Апошніх Дзён дыктатуры...

І вось 21 ліпеня дзень канца сьвету прыйшоў. Зранку масы фанатыкаў-сэктантаў, прыхапіўшы дзетак і знаёмых аднапартыйцаў з правінцыі, з малітвамі рушылі на цэнтральную плошчу Менску. Усе асабіста жадалі прыкалоцца, як пад гукі ерыхонскай трубы зь неба пасыпіцца дэсант архангелаў, якія, заламаўшы Прэзыдэнту рукі, пацягнуць яго ў сёмае кола пекла. А там, як казаў Дантэ, lasciate ogni speranca.

Зразумела, шыш з маслам пабачылі, а не паказальныя выступленьні архангелаў. Аднак надзея памірае апошняй. Каб захаваць аўтарытэт, катакомбныя прасбітэры апазыцыі выступілі з новымі заявамі, быццам там, на небе, нейкая няўвязка з датамі, і апэрацыя «Армагедон» перанесеная роўна на 21 дзень да наступнай круглай даты – 11 жніўня – дня зацьменьня. Зацьміла, як вядома, канкрэтна, але зноў міма.



«І чаго павылупляліся, зацьменьне як зацьменьне», – заявіў Прэзыдэнт

У чарговы раз дэмакратычныя апосталы запалі ў транс і разрадзіліся новымі футуралягічнымі прагнозамі. Цяпер ўсе круціцца вакол Міленіюму (старая байка аб тым, што супадзеньне трох нулёў у годзе – стопрацэнтовая гарантыя сацыяльных катаклізмаў). Якраз на наступны 2000 год прыпадаюць парлямэнцкія выбары, якія інтэрпрэтуюцца як прыход Залатога дэмакратычнага стагодзьдзя.

Прыпыніць распаўсюд апазыцыйнай ерасі дзяржава ўжо ня ў сілах. Таму Прэзыдэнт, як дастойны пераемнік рымскага імпэратара Канстанціна, вырашыў пайсьці іншым шляхам. Рыхтуецца Міланскі эдыкт (прасьцей кажучы, «Круглы стол»), які заклікаецца ўпісаць рэлігійных дысыдэнтаў у грамадзкія інстытуцыі. ●



*Тайна ідэалягічнага трансвэстыта раскрытая:*

# Эдзік – нармальны пацан!

Тут на днях моцна прышчучылі каўдыльё беларускіх сэксуальных меншасьцяў Эдзіка Тарлецкага. Паміж намі, Тарлецкі – сапраўдны жук, пра якіх народная прымаўка кажа: і на хер сеў, і рыбку зьеў. Беларускі Элтан Джон займаўся тым, што рэгулярна плакаўся Захаду аб тым, што нашым блакітным вустрыцам не ўмагату пад спудам дыктатуры антырыначных гомафобаў. Вядома, ня ўсе геі і гейшы там, на Дзікім Захадзе, аддаваліся эмоцыям підарскай салідарнасьці, але сьвет не без сэнтымэнтальных багатых вычварэнцаў. На такім фінансавым натхненьні тутэйшы Оскар Уайльд жыў без праблемаў: ціскаў часопіс *Форум* з хлапчукамі ў пэньюары на глянцавай вокладцы, патрабаваў ад дзяржавы наладзіць выраб штучных мужчынскіх сінусаў і замуціў конкурс «Містэр Гей'99».

Можа дзе-небудзь на Захадзе гэта яму б так і сыйшло з рук, але мы, беларусы, – народ талерантны й абыякавы. Хутка энтузыясты-гетэрасэксуалы з аднаго далёкага калгасу на Піншчыне даведаліся пра экстравагантнасьці Тарлецкага і вырашылі размазаць сэксуальнага аслушніка. «Мля, – пісала мясцовая раёнка. – Колькі яшчэ гэты разбэшчаны путан будзе псаваць нашых хлапцоў і атручваць здаровы дух грамадзтва? Калі ж будзе выжжана гэта скверна з нашай Беларусі?». Апантаныя самааддданым служэньнем традыцыйнай маралі, сельскія пацаны з каламі й віламі ламануліся ў сталіцу шукаць Эдзіка.



Паводле зьвестак маладых пінкертонаў, рэдактара *Форуму* можна было лёгка адфільтраваць у парку Чалюскінцаў, які менскія лямбды аблюбавалі пад рысталішча сэксуальных вакханаліяў. «Высачым Тарлецкага зь ягоным бойфрэндам. А як толькі кліенты пачнуць падабастрасна крыхцець, пачастуем салодкую парачку ад душы пі..лямі», – адзінадушна пастанавілі патрыёты клясычнага сэксу.

Муфція беларускіх сэксмэнаў вылічылі яшчэ на станцыі мэтро. Па кветках у руцэ было відавочна, што яму неўцярпёж бачкануцца з чарговым жыманным падлеткам. Паліцыя нораваў кінулася была ў сьлед вычварэнцу ў адчуваньні крывавай назідальнай расправы, але жорстка абламілася: на выхадзе з мэтро Тарлецкага чакала... дзяўчына.

Адразу ўсё стала на свае месцы. У прыватнай размове высьветлілася, што Эдзік, як і ўсе нармальныя беларусы, стопрацэнтовы закончаны бабнік. Вонкавая полавая беспрынцыповасьць проста дазваляе яму ўдзень рабіць прыбытковы гешэфт на праблемах геяў і лесбіянак, а ўначы таямніча й бесклапотна круціць з фэмінамі. Сялянскія хлопцы засталіся вельмі задаволенымі такімі тлумачэньнямі. Госьці зь Піншчыны нават пасябравалі з Тарлецкім і таксама запісаліся ў Лямбду. Зараз «зьмяніўшыя» сэксуальную арыентацыю правінцыялы заснавалі ў сябе ў калгасе NGO "Палескія шалуны" і чакаюць выкліку на сэмінар «Пэдэрасты й праблема альтэрнатыўнай службы ў бундэсвэры». Сэмінар пройдзе з 5 па 7 верасьня ў Гамбургу. Квіткі й пражываньне аплочвае прымаючы бок – Фэдэрацыя геяў зямлі Шлезвіг-Гольштайн ●

**Сяржук Пенкін**

*На экрАнах*

## Родны кут for sale

Зьняць на прастачка мэліраваную кралю, зваліць на ўік-энд на Нарач і, нажраўшыся ўдрабадан «Крыжачком», танчыць усю ноч голымі пры месяцы – па ўсім відаць, гэтым



улюблёным формам relaxion па-беларуску прыходзіць капец. Не ўпісаліся мы са сваімі інтэлігентнымі перажыткамі ў стандарты грамадзтва з культам залатога цяльца.

Каб зразумець гэтую горкую ісьціну, дастаткова паглядзець ролік пра беларускія запаведнікі, які штодня ганяюць па ОРТ у цыкле «Рэкляма ў Беларусі». Што й казаць, кліп – вышэйшы гатунак. Перад зачараванымі вачыма тэлегледача праплываюць краявіды нарачанскага вадаёму, афігіцельна багаты жывёльны сьвет Белавескай пушчы, сосны і ўсё такое. За экранам украдлівы голас чытае быццам бы нэйтральны тэкст пра прыроду. Гучыць гіпнатычная мэлёдыя. Прагледзеўшы бэтэшную рэкляму, падрывае адразу набраць нумар ціцянкоўскага фонду дый спытаць, колькі каштуе Нарач і ці можна аплаціць безнаяўнымі. Толькі рэзэрвы цьвярозага розуму ўтрымліваюць ад таго, каб не зрабіць такое відавочнае глупства. Сапраўды, хіба нашаму чалавеку па кішэні набыць цэлы нарачанскі запаведнік? А вось нейкі буржуй, кшталту Біла Гейтса, або кувэйцкі шэйх фінансава здольныя адклікнуцца на рэклямную прапанову БТ. Такія несымпатычныя хмыры будуць у хуткім часе запраўляць Менскім морам і вазіць туды нашых сяброўак на шашлык. Нам, простым грамадзянам, нажаль, застаецца толькі любавацца майстэрствам рэклямамэйкераў БТ і з папраўкай на актуаліі перафразаваць клясыку: «Мой родны кут, як ты мне мілы, набыць цябе ня маю сілы!».

## Каўкаская гастроль

### Грандыёзнымі беспарадкамі скончылася турнэ вядомага поп-сьпевака Шуры ў Дагестане

Адразу адзначым, што канцэрты моднага шчарбатага Шуры ў Дагестане былі запланаваныя яшчэ ў весну ў рамках грандыёзнага турнэ «Расейскія рэгіёны». Аднак ніхто не спадзяваўся, што выпадковы візыт Шуры ў горны кішлак атрымае такі выбуховы рэзананс. Едучы на запланаваны канцэрт з Стаўрапаля ў Махачкалу, аўтобус з музыкамі заблукаў уначы сярод горных хрыбтоў. Праяжджаючы праз горны кішлак Ансалта, Шура вырашыў спытаць дарогу ў мясцовых жыхароў: «Фкажыте, где тут у ваф Махатькала?».

Пазнаўшы ў путніку зорку, узрушаныя горцы сталі страляць у паветра й галасіць: «Шура – наш кумір! Шура – наш карол!».

А фэдэральныя ўлады зноў усё ня так зразумелі.



# Снайперы ў горадзе

### Гэтай беднай дзяўчыне прыйшлося доўга даводзіць разьюшаным пэнсіянэркам, што яна не страляе цыгарэты і тым болей ня лазіць у форткі

Калі верыць у тэорыю пра перасяленьне душаў, можна прыйсьці да высновы, што цэхавік Супрановіч – вылітая рэінкарнацыя славутага няўдачніка айца Фёдара з «Дванаццаці Крэслаў». Наш сучасьнік-герой, якога за вочы называюць апазыцыйны Трапіла, кантралюе беларускі музычны бізнэс і час ад часу пускаецца ў рызыковыя афэры. Як правіла, ўсе ягоныя махінацыі сканчаюцца крахам. Яшчэ сёньня на паліттусоўках распавядаюць слаўную гісторыю пра кашулькі з лэйблам «Свабоду Севярынцу!». Супрановіч у самы разгар валадарскай эпапеі Севярынца наштампаваў тону T-shirt са згаданым лэйблам і меў сур'ёзныя намеры сарваць неблагі куш. У кошт будучых прыбыткаў Супер ужо набыў залаты ланцужок на шыю і пантаваўся, як сапраўдны новы беларускі, на апазыцыйных пікетах.

Але як назло, на наступны дзень улады амніставалі Севярынца, ператварыўшы кан'юнктурны тавар у партыю нікому не патрэбнай мануфактуры. Супрановіч кінуўся ратоўваць сытуацыю, вывaрачваючы майкі ды набіваючы новы малюнак – профіль ДыКапрыё ў абдымку з Сэлін Дыён. Але было ўжо позна. Залаты ланцуг прыйшлося вярнуць.

Урок не пайшоў упрок. У гэтую восень, ня ведаючы спакою, дух Супрановіча зноў захапіўся фантомам лёгкай нажывы. Перадапошнія *Навіны* па заказу Супера зьмясьцілі грандыёзны рэклямны падвал: «Набывайце значкі з надпісам «I`m sniper». У такія шматпакутныя для Радзімы дні кожны сябра апазыцыі павінен мець у кішэні значак «I'm sniper». Начапіўшы «I'm sniper», ты набліжаеш нацыянальную рэвалюцыю» і г.д. Пра канцэпцыю значка тыя ж *Навіны* пішуць наступнае: «У аснову новага маладзёвага сымбалю пакладзены выраз «Беларусь выратуе снайпер» і папулярны пад час натаўскіх бамбардзіровак югаслаўскі значак Target (мішэнь). Маладая генэрацыя вырашыла ўзяць адказнасьць за лёс Радзімы, а прадстаўнікам улады можна парэкамэндаваць пазычыць у Мілошавіча значкі з выявай мішэні... Значкі абяцаюць стаць галоўным хітом маладзёвай моды ў гэтым годзе».

Тыя легкаверныя моднікі, што кінуліся набываць фалерыстычную навінку, яўна ў свой час сачкавалі піянэрскія сходы або проста не засталі іх. Інакш бы ім назаўсёды запала ў мозгі залатая мараль, якую капала грудастая піянэрважатка: «Дзеці, не паддавайцеся на ідэалягічную дывэрсію імпэрыялістаў. Ні ў якім выпадку не набывайце прадукцыю з надпісамі на замежнай мове. Тут на днях адны фарцоўшчыкі набылі ў інтурыстаў пакеты з лэйблам ABBA, а гэта дарэчы перакладаецца як «А Бальшавікам Будзе Амба». Замялі галубчыкаў на ўлік у КДБ».

Увесь гэты пасаж пра савецкую школу да наступнага. Аматары маладзёвага арго сьведчаць, што на амэрыканскім слэнгу sniper акрамя ўсяго азначае: вор-дамушнік, зьбіральнік «бычкоў» і, як гэта пакарэктней сказаць, скрайняя палавая мужчынская плоць, з..лупа.

Вось табе і ўся маладзёвая мода ў гэтым годзе.

Залатога ланцужка Супрановічу зноў не відаць ●

**Лі Х. Освальд**

# Red Hot Chili Peppers: «Аганьку было мала...»

## Крутыя «гарачыя перцы» ня здолелі як сьлед адперчыць масквічоў

Менавіта гэтак ахарактарызаваў гастроль славутага амэрыканскага рок-калектыву ў Маскву вакаліст «перцаў» Энтані Кідыс.

І сапраўды, паездка была цалкам няўдалай: ніводнай бойкі, п'янага дэбошу альбо пажаранебясьпечнай сытуацыі. Карэспандэнт газэты *Навінкі* ўзяў інтэрвію ў музыкаў славутага амэрыканскага гурта, калі тыя вярталіся дахаты аўтастопам праз Менск. Вядома, музыкі пасьля свайго турнэ былі цалкам разьбітыя й пасьля літрухі «Белай Русі» ўвогуле ня ў стане былі пра нешта размаўляць. Але Кідыс, а таксама басіла «перцаў» Флі ўсё ж адказалі на некалькі пытаньняў.

**«Н»: Скажы-ка, Тоні, чаму вы гэтак галіма адыгралі ў Расеі? Беларускія фаны чакалі ад вашага канцэрту як мінімум другога пажару Масквы.**

**К.:** Ведаеш, ад самага пачатку мы былі ўпэўненыя, што ўсё будзе херова. Застрёманыя нашым выступам на 30-годзьдзі фэстывалю ў Вудстоку, калі мы сваёй музыкай запалілі ўсю акругу, казлы з ураду Масквы хацелі ўвогуле забараніць сэйшн. Добра, маскоўскія браткі, якія скупілі ўсе квіткі на лепшыя стаячыя месцы на Васільеўскім спуску, падмаглі. Дзякуй ім.

**«Н»: Аднак, я чуў, што ўсяроўна былі нейкія траблы...**

**К.:** Так, арганізатары турнэ, зайграўшы ачком, запатрабавалі, каб мы далі ім усе нашыя тэксты на цэнзуру. Маўляў, ня трэба нам сьпяваць песьні, дзе ёсьць словы «агонь», «паліць», «гарачы» і г.д. Нават у афішах напісалі Red Cold Chili Peppers. Але мы іх паслалі й адыгралі сваю праграму як мае быць.

**Ф.:** А пажарнікаў было, маць тваю любі. Сагналі, напэўна, паў-Варшавы...

**К.:** Масквы, дэбіл!

**Ф.:** Ну так, Масквы. Гэтыя ідыёты палівалі з брандспойтаў публіку пасьля кожнай нашай песьні. Уроды!

**«Н»: Дарэчы, як вам маскоўская публіка?**

**К.:** Абсалютныя адмарозкі! Поўны адстой! Ім ня тое, што Крэмль падпаліць, запалку з кішэні ў лом выцягнуць. Нават пад наш самы круты хіт «Suck me kiss», пад які ў Швэцыі нашыя фаны да тла спалілі Канцэртную залю «Стакгольм», толькі адзін слухач зрабіў спробу дастаць запальнічку. Дый таго адразу так акацілі з вогнетушыцелю, што той трапіў у шпіталь зь першай ступеньню абмаражэньня канечнасьцяў.

**Ф.:** А мне ў Менску больш падабаецца. Так і чэшуцца рукі змайстраваць нейкі Молатаў-кактэйльчык... Слухай, трэба дагнацца! Мятніся...

І дыскусія пайшла ў другое рэчышча. Потым «перцы» адыгралі кватэрнік у памяшканьні рэдакцыі *Навінак*, спалілі чайнік і ўчынілі бойку з музыкамі гурта «Deviation». А на раніцу, цалкам задаволеныя, загрузіліся на самалёт Менск–Нью-Ёрк... ●

# Беларуская гісторыя X

На небасхіле куміраў беларускіх ультрас узышла новая супэрстар. Гэта непаўторны шматфункцыянал Валеры Шчукін, адзін з Майсеяў беларускай апазыцыі, экстравагантны стары, які мае проста фэнамэнальнае пачуцьцё на разборкі з уладамі.

Нягледзячы на той неабвержны факт, што рубіць ён у футболе роўна столькі, колькі і ў занятках фітнэс, 18 жніўня ногі самі сабой прынесьлі нашага героя на матч Беларусь-Расея. Акурат у гэты момант расейцы ўцюхалі Шуміловічу 20 капеек. Пачалося храмавае дзейства расейскіх фанатаў: прышпораныя посьпехам масквічы борза наехалі на беларускі сэктар. Гэта быў алес. Тым больш, што крутая банда сталічных фанатаў-скінаў, што звычайна бухае на пл.Волі за здароўе белай расы, не змагла пайсьці на стадыён. У гэты дзень ўсе арыйцы сьвету сьціраюць свае белыя шнуркі.

У такі архікрытычны момант Шчукін адразу павёўся на ўнутраны голас, што заклікаў яго ўзначаліць бел-чырвона-белую капэлу заўзятараў-маладафронтаўцаў. Стары сапраўды знайшоў сябе: на грані прававога фолу ё..нуў па купалу маскоўскаму hools'у на вачах у Прэзыдэнта, які сядзеў нездалёк у ложы. А ўжо праз імгненьне разжыўся ў няпрошаных гасьцей расейкім трыкалёрам і, рагочачы, разарваў трафэй зубамі на дробныя кавалкі. Калі ж неўзабаве награнуў АМАП, нэафіт-тыфозі таксама не аблажаўся. Як інфармуе газэта *Навіны*, Шчукін – адзіны чалавек зь беларускіх фанатаў, хто здолеў вырвацца з кіпцюроў спэцназу з нацыянальным сьцягам наперавес, гучна сьпяваючы фанацкія прысьпеўкі:

*Мы сваё призванье не забудем:*
*За каманду фанатеть мы будем!*
*И ни водка, ни чужие жоны*
*Не заставят нас пакинуть стадионы!!!*

У свой час у адной дзіцячай кніжцы нейкі джын Хатабыч, паглядзеўшы футбол, захапіўся новай гульнёй на ўсё жыцьцё. Тое ж адбылося і з другім старым. Увечары Шчукіна бачылі ў сквэры на Мастаках. Грымеў угарны Oi!, лілося піва. Новы чырвоны скінхэд (Шчукін – сябра кампартыі і лажае расісцкія тэорыі) падбіваў брытагаловую брацію ехаць на выезд у Маскву і разьнесьці гэную сраную пердзь на арэхі. ●

**Рыгор Катоўскі,**
*SHARP-skin*

## РАЗЬМЕРКАВАНЫ Ў ЗОНУ

Разьмеркаваны ў Хойніцкі раён выпускнік БДУ прыбыў на месца працы.
Позна ўначы ён вяртаўся дахаты да каханкі праз калгаснае поле...
Хацелася есьці,
Бо заробак не плацілі другі месяц
Маць..., маць
Але ж жраць ахвота, маць...
Раптам...
Обана!
Хаўчык
Гэй!
Рукі!
Ну, ты
Галодныя глюкі даўно сталі звычкай
Гэта што за фрукт?!
!!!
Гэта быў ня глюк
Валіце яго пацаны!
У мутантаў не засталося шанцаў.
Малады філёлаг узгадаў «ваенку»
Зь мясцовых «крастоў» атрымалася цэлая гара прадуктаў
Во, крута
Шчэ й на зіму хопіць
Хрум... О! Хрум-хрум!!!
Гэта ж палепей за круасаны!
Гэта быў даўно забыты смак перамогі...
Эх, яшчэ б сальца – і!..
Але!
?
Сальца? Гаа!
Гаа!
А гэта што за фрукт?!